*Шагал едзе ў Беларусь (стар. 2) Скандал на Камароўскім рынку (стар. 3)*
*П'яны ветэран афганскай вайны забіў афіцэра міліцыі (стар. 8)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 36.800
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 27 траўня 1997 | № 55 | Кошт свабодны

## Аргкамітэт «Маладога фронту» пачаў працу

**У суботу, 24 траўня, у штаб-кватэры Беларускага народнага фронту прайшоў першы сход аргкамітэта новай рэспубліканскай арганізацыі «Малады фронт».**

На паседжанне прыехалі прадстаўнікі амаль ад 40 маладзёжных фракцый БНФ. Перад прысутнымі выступіў выконваючы абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту Лявон Баршчэўскі. Лідэр маладзёжнай арганізацыі БНФ Павел Севярынец расказаў аб планах работы і азнаёміў дэлегатаў з дакументамі, якія прапануюцца для прыняцця, — у прыватнасці, з праектам заявы, дзе гаворыцца: *«Сход дэлегатаў арганізацыйнага камітэта па стварэнні маладзёжнай арганізацыі БНФ «Малады фронт» заяўляе: «Мы, маладыя франтаўцы, выступаем за вольную, незалежную, еўрапейскую Беларусь; будзем змагацца за беларушчыну паўсюль, дзе мы ёсць. Дзеля таго, каб у Беларусі была будучыня, і ствараецца «Малады фронт».*

Старшынёй аргкамітэта "Маладога фронту" абраны студэнт Андрэй Пятроў.

## Жыхары Мінска – супраць арыштаў

**Большасць жыхароў Мінска асуджаюць арышты ўдзельнікаў масавых акцый у беларускай сталіцы вясною гэтага года.**

Апытанне грамадскай думкі жыхароў Мінска правялі спецыялісты недзяржаўнай сацыялагічнай службы «Ольхон». Як высветлілася, толькі кожны пяты апытаны (21%) лічыць арышты ўдзельнікаў дэманстрацый і мітынгаў адэкватнымі мерамі з боку ўладаў; больш за палову (51%) — катэгарычна нязгодныя з такімі сілавымі метадамі. Астатнія рэспандэнты не змаглі адказаць на прапанаванае пытанне.

Прыкладна пароўну падзяліліся думкі рэспандэнтаў па такіх фактах, як выдварэнне з краіны выканаўчага дырэктара Беларускага фонда Сораса Пітэра Бэрна і дэпартацыя сакратара амерыканскага пасольства Сержа Аляксандрава. 18-19% мінчан падтрымліваюць гэтыя крокі ўладаў, а 33% — катэгарычна з імі нязгодныя.

## Суд апраўдаў прафсаюзных веласіпедзістаў

**Суддзя Мінскага райсуда Алена Шаўчэнка 22 траўня спыніла справу ў дачыненні да Аляксандра Каралёва і Мікалая Зіміна, якім ставілася ў віну парушэнне прэзідэнцкага дэкрэта № 5.**

Нагадаем, што 30 красавіка гэтага года А.Каралёў і М.Зімін былі затрыманыя пры правядзенні мірнай акцыі — веласіпеднага маршу з Салігорска ў Мінск, дзе яны мелі намер узяць ўдзел ў першамайскай дэманстрацыі. Велапрабег праводзіўся пад лозунгамі *«Не — сацыяльнаму Чарнобылю!»*, *«Аднавіць на працы звольненых метрапалітэнаўцаў!»* і інш. У 25 кіламетрах ад Мінска ўдзельнікаў марша затрымалі работнікі ДАІ і даставілі ў РАУС Мінскага раёна, дзе на іх быў складзены пратакол. У веласіпедным маршы браў удзел таксама лідэр незалежнага прафсаюзнага руху Салігорска Віктар Бабаед.

*БелаПАН*

# Холадна: гараць партрэты і сцягі

**Два вечары запар — 22 і 23 траўня — у цэнтры Мінска моладзь ладзіла акцыі пратэсту супраць падпісання беларуска-расійскага саюзнага статута.**

*«Станцыі метро «Купалаўская» і «Кастрычніцкая» адкрытыя толькі для перасадкі пасажыраў з адной лініі на другую»*, — паведамлялі машыністы мінскага метро пасажырам увечары 22 траўня. Сапраўды, у той вечар усе ўваходы і выхады на гэтых станцыях былі блакіраваныя шчыльнымі кардонамі міліцыянтаў, а ў двarах і на прылеглых да праспекта Скарыны вуліцах стаялі аўтобусы і спецмашыны, напоўненыя ахоўнікамі парадку ў баявой экіпіроўцы. Такім неадэкватным чынам адрэагавалі сталічныя ўлады на маладзёжную акцыю пратэсту супраць інтэграцыйных памкненняў беларускага дыктатара.

Прыкладна 300 маладых людзей сабраліся ў 19 гадзін на тратуары каля ўніверсама «Цэнтральны» і на працягу 30 хвілін скандзіравалі традыцыйныя лозунгі *«Далоў Луку» і «Беларусь — у Еўропу»*, а таксама спалілі два дзяржаўныя сцягі Расіі і некалькі партрэтаў Лукашэнкі. Пасля гэтага хлопцы і дзяўчаты сталі ў калону і рушылі ў напрамку да пл.Незалежнасці.

Прайсці па праспекце ім удалося ўсяго метраў з 200, каля жоўтага будынка КДБ дэманстрантаў ужо чакаў амонаўскі кардон. Моладзь павярнула назад, а міліцыянты, адчуўшы сваю сілу, кінуліся на разгон «несанкцыянаванай дэманстрацыі».

Юнакі пабеглі ўніз па вул.Камсамольскай праз двары на Нямігу. У гэтых дварах міліцыя наладзіла «зачыстку тэрыторыі» і



*Падчас акцый было публічна спалена некалькі расійскіх сцягоў.*

арыштавала прыкладна 20 чалавек. У мінулую пятніцу яны былі пакараныя судом Цэнтральнага раёна трохмільённымі штрафамі, а некалькі чалавек атрымалі ад 3 да 5 сутак арышту.

Тыя, хто выйшаў пратэставаць супраць саюза Лукашэнкі і Ельцына на наступны дзень, 23 траўня, паводзілі сябе больш асцярожна. Лідэры, відаць, вырашылі не падстаўляць дарэмна людзей пад дубінкі, і шэсця па праспекце не арганізоўвалі. Пастаяўшы паўгадзіны каля метро «Кастрычніцкая» і абсвістаўшы прэзідэнцкі картэж, які якраз перавозіў Лукашэнку з аэрапорта ў загарадную рэзідэнцыю, маладыя апазіцыянеры хутка зніклі ў падземным пераходзе, але пакінулі на ходніку дагараць расійскі трыкалор.

Як нам паведамілі ў штаб-кватэры БНФ, у гэты дзень міліцыя затрымала пяць удзельнікаў акцыі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Без віны вінаватыя

**Штраф у 150 мінімальных зарплат стаў ужо традыцыйным пакараннем для апазіцыянераў.**

Менавіта на такую суму (22,5 млн. рублёў) былі аштрафаваныя судом Савецкага раёна г.Мінска актывісты БНФ Мікола Анцыповіч, дацэнт політэхнічнай акадэміі, і рабочы Алесь Чахольскі. Асудзілі іх на падставе зусім абсурдных абвінавачванняў.

Анцыповіч і Чахольскі былі арганізатарамі мітынгу, які праводзіўся 14 траўня на плошчы Якуба Коласа. Акцыя была дазволеная гарвыканкамам і прайшла без эксцэсаў. Пасля мітынгу моладзь накіравалася па тратуарах у бок цэнтра горада, што было расцэнена ўладамі як несанкцыянаванае шэсце. Ініцыятараў мітынгу праз некалькі дзён арыштавалі (Чахольскага нават трымалі за кратамі двое сутак), а потым судзілі. Суддзя Ігар Крывалапаў прызнаў іх вінаватымі ў тым, што яны не забяспечылі парадак пасля заканчэння мітынгу. І хаця ні ў адным законе такая адказнасць на арганізатараў не ўскладаецца, тым не менш Анцыповіча і Чахольскага пакаралі «па поўнай праграме».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Брэсцкі БНФ высяляюць

**Брэсцкі гарвыканкам вырашыў забраць памяшканне, дзе размяшчаецца штаб-кватэра Брэсцкай абласной арганізацыі БНФ**

Тэрмін дамовы аб арэндзе сканчаецца 31 траўня. Днямі абласная рада БНФ атрымала афіцыйную пастанову гарвыканкама з адмовай працягнуць тэрмін арэнды памяшкання.

Народны фронт — адзіная апазіцыйная партыя, якая мела ў Брэсце ўласную штаб-кватэру. На думку кіраўніцтва абласной рады БНФ, гэтае рашэнне з'яўляецца спробай брэсцкай «вертыкалі» загнаць арганізацыю ў падполле і пазбавіць яе сувязі з насельніцтвам.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Раман Беларусі з Расіяй

*Але замест шлюбу — толькі прызнанні ў каханні*

Як вядома, у мінулую пятніцу ў Маскве быў падпісаны статут саюза Расіі і Беларусі. Прэзідэнты абедзвюх краінаў з задавальненнем адзначылі, што зроблены яшчэ адзін крок насустрач «аб'яднанню». У чым жа канкрэтна ўвасобіўся гэты крок і як вырашылі прэзідэнты спрэчныя моманты, пра якія напярэдадні падпісання шмат гаварылася?

*«Перспектывы развіцця Саюза накіраваны на рух да добраахвотнага аб'яднання дзяржаваў-удзельніц Саюза на падставе свабоднага волевыяўлення іх народаў»*, — такая фармулёўка знойдзена адносна праблемы адзінай дзяржавы. Якой яна будзе (федэратыўнай, канфедэратыўнай) і ці будзе ўвогуле — не ўдакладняецца. Час вырашыць.

Найбольш істотныя змены ўнесены ў тую частку статута, якая датычыць паўнамоцтваў і прынцыпаў дзеяння кіруючага органа саюза — Вышэйшага Савета. Па-першае, знікла фармулёўка аб тым, што кіраўнік Савета (прэзідэнт адной з краін-удзельніц) выконвае гэтыя паўнамоцтвы на працягу двух гадоў. Цяпер тэрмін не агаворваецца. Па-другое, рашэнні Вышэйшага Савета будуць мець сілу толькі пасля зацвярджэння двума прэзідэнтамі. Гэта значыць, што кожны з прэзідэнтаў мае права вета. У статут закладзена таксама палажэнне, што краіны-удзельніцы павінны гарантаваць дзейнасць незалежных СМІ і апазіцыйных партыяў.

І нарэшце — эканамічная частка. Тут заяўлена аб стварэнні *«агульнага рынку паслуг у галіне энергетыкі, транспарту і сувязі»*, дэкларуецца *«свабоднае перамяшчэнне тавараў, паслуг, капіталаў і працоўнай сілы»*, пацвярджаецца *«мытны саюз»*.

**Пракаментаваць асноўныя палажэнні статута СВАБОДА папрасіла прадстаўнікоў апазіцыі — былога намесніка міністра замежных справаў Андрэя Саннікава, дэпутатаў Аляксандра Дабравольскага і Паўла Данэйку.**

**Андрэй САННІКАЎ:** «У статуце заяўлена аб «міжнароднай правасуб'ектасці», што, на маю думку, у пэўным сэнсе сімвалізуе ўвесь дакумент. Атрымліваецца, што Лукашэнка гарантуе сабе магчымасць выступаць на міжнароднай арэне як лідэр саюза двух краінаў. Але давайце не забываць, што статут трэба будзе ратыфікаваць і беларускаму парламенту, так званаму нацыянальнаму сходу, якога ніхто на Захадзе не прызнаў. Такім чынам, саюзу гарантавана міжнародная нелегітымнасць, і гэта Расіі добра вядома. Так што па сутнасці Масква толькі робіць выгляд, што яна давярае Лукашэнку прадстаўляць сябе ў свеце. Гаворка ідзе толькі пра правядзенне нейкіх сімвалічных мерапрыемстваў — кшталту фальклорных святаў. Маўляў, хай гуляе, калі хоча. Расія забяспечыла сябе магчымасць спыніць любыя непатрэбныя ёй рашэнні з дапамогай прэзідэнцкага вета, а з астатнім няхай Лукашэнка носіцца, як з пісанай торбай».

**Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ:** «З'яўленне запісу аб гарантыях незалежным СМІ і апазіцыі нельга ўспрымаць інакш, як вынік ціску на Расію з боку Захада. Між тым, я ўпэўнены, што Лукашэнка не збіраецца прытрымлівацца гэтых пунктаў статута. І ён гэта ўжо паспеў прадэманстраваць, калі пагражаў санкцыямі супраць НТВ ужо пасля падпісання статута. Адзначу, што па-сапраўднаму не цікавяць праблемы незалежнасці СМІ і правоў чалавека ў Беларусі і расійскага прэзідэнта. У Ельцына ёсць магутныя сродкі ўздзеяння на Лукашэнку — эканамічныя, але ён іх не выкарыстоўвае, бо не зацікаўлены ў дэмакратызацыі Беларусі.

Таму факту, што з дакумента знікла ўзгадванне пра «вайсковы саюз», я б не надаваў вялікага значэння: у гэтым сэнсе Расія і без таго атрымала ад Беларусі ўсё, што ёй трэба.

**Павел ДАНЕЙКА:** «Мытны саюз з Расіяй для нас неспрыяльны. Расія з яго дапамогай бароніць сваіх вытворцаў, якія навязваюць беларускім прадпрыемствам нізкаякасныя паўфабрыкаты. А потым мы не можам выйсці на сусветны рынак з таварамі, што зроблены з гэтых кампанентаў. Замест мытнага саюза нам трэба было б заключыць пагадненні аб свабодным гандлі з суседнімі краінамі — каб забяспечыць бяспошлінны гандаль таварамі ўласнай вытворчасці. Тады мы выкарысталі б сваё геаграфічнае становішча і дзейнічалі б адпаведна эканамічнай спецыялізацыі. Замест гэтага аказваемся яшчэ больш цесна прывязанымі да закрытай расійскай эканомікі: у статуце запісана, што мы павінны мець у адносінах з трэцімі краінамі аднолькавы з ёй, Расіяй, рэжым гандлю і мытных тавараў. Гэта азначае, што беларускую эканоміку прымушаюць працаваць на карысць расійскай».

*Падрыхтаваў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Шагал едзе ў Беларусь праз Хельсінкі

**На пачатку чэрвеня ў Беларусі пройдзе выстава твораў сусветна вядомага мастака-мадэрніста Марка Шагала.**

Марк Шагал нарадзіўся ў 1887 г. у Віцебску, але ў музейных калекцыях нашай краіны няма арыгінальных твораў Шагала. Тым не менш радзіма мастака выклікае вялікую цікавасць навукоўцаў і аматараў мастацтва ва ўсім свеце. Агульнымі намаганнямі дзеячоў культуры Беларусі і Францыі падчас мастацкага фестывалю, прымеркаванага да 110-х угодкаў Шагала, у Мінску і Віцебску будуць экспанавацца 60 ягоных твораў.

Як паведамляе амбасада Францыі, каштоўны мастацкі груз будзе адпраўлены з Нацыянальнага Музея Марка Шагала ў г.Ніца самалётам у Хельсінкі, адкуль на спецыяльным грузавіку з узброенай аховай і ў суправаджэнні навукоўцаў-захавальнікаў творы мастака прыбудуць у Мінск, а потым у Віцебск. Да выставы прымеркаваны візіт у Беларусь французскіх спецыялістаў па творчасці Шагала.

Г.Ш.

## Прыйшла пара збіраць каменне

**У Ашмянскім раёне мясцовым беспрацоўным, якія атрымліваюць ад дзяржавы невялікую грашовую дапамогу, давялі абавязковую норму адпрацоўкі.**

На працягу месяца яны павінны адпрацаваць 48 гадзін (шэсць дзён) на нарыхтоўцы лесу, ці на прыборцы камення з калгасных палёў або іншых сельгасработах. Хто не жадае ехаць на лесапавал або ў калгас, можа папрасіцца ў камунальную службу — і тады яго пакінуць у райцэнтры месці вуліцы. Але такой «гарадской» работы на ўсіх не хопіць. Тыя ж, хто не адпрацуе зацверджаныя нормы, адразу будуць пазбаўлены мізэрнай дзяржаўнай кампенсацыі па беспрацоўі. Гэтыя жорсткія меры ўведзеныя ў адпаведнасці з дэкрэтам Лукашэнкі.

Мікола БОГУШ

## Ад радыяцыі не схаваешся

**Беларускае кіраўніцтва заяўляе, што на забруджаных радыяцый тэрыторыях можна жыць і атрымліваць «чыстую» сельгаспрадукцыю. Аднак факты медыцыны сведчаць пра адваротнае.**

Напрыклад, у Добрушскім раёне Гомельскай вобласці спажыванне забруджаных прадуктаў з'яўляецца адной з галоўных прычынаў пагаршэння здароўя людзей. Сярод тых, хто звярнуўся па медычную дапамогу ў раённую паліклініку, летась было зарэгістравана 40 чалавек з перавышэннем дапушчальнай дозы ўнутранага апраменьвання (радыяцыя, якая паступае з ежай і пітвом), у гэтым годзе — ужо 9. Пры гэтым спецыялісты адзначаюць, што летам паказчык абавязкова павысіцца, бо людзі пачнуць спажываць больш ягад, грыбоў, гароднiны.

Перавышэнне дапушчальных дозаў знешняга апраменьвання рэгіструецца вельмі часта. «Групу рызыкі» складаюць перш за ўсё паляводы, будаўнікі, леснікі. Асаблівая высокія паказчыкі зафіксаваныя ў дзяцей і падлеткаў вёскі Дубовы Лог.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

# 30 хвілін падтрымкі

**Спроба мінскіх уладаў, прадстаўнікоў КПБ, ДСПС, Саюза афіцэраў і іншых прапрэзідэнцкіх арганізацый наладзіць у дзень падпісання беларуска-расійскага саюзнага статута мітынг у падтрымку інтэграцыі з Расіяй фактычна скончылася правалам.**

Дзесяткі выдзеленых гарвыканкамам аўтобусаў звозілі 23 траўня да Палаца спорту, дзе мелася адбыцца дэманстрацыя «ўсенароднай падтрымкі», рабочых мінскіх прадпрыемстваў, студэнтаў ВНУ і навучэнцаў тэхнікумаў сталіцы. Па спушчанай уладамі дырэктарам заводаў і навучальных установаў разнарадцы, цэхі, аддзелы, студэнцкія групы і г.д. павінны былі делегаваць на мітынг сваіх прадстаўнікоў. Так, напрыклад, адказнымі за яўку студэнтаў былі прызначаныя загадчыкі ваенных кафедраў ВНУ, якія атрымалі ўказанне выключаць з кафедраў асоб, якія праігнаруюць акцыю дзяржаўнай важнасці. Для маладых хлопцаў гэта сур'ёзная пагроза: сёння многія хочуць вучыцца на ваенных кафедрах, каб пасля заканчэння ВНУ калі і ісці ў войска, то ўсё ж афіцэрам.

Такім чынам, да пачатку мерапрыемства каля Палаца спорту ўдалося сабраць прыкладна 15 тысяч чалавек. Але не паспеў намеснік мэра Мінска, лідэр «прэзідэнцкіх» камуністаў Віктар Чыкін, які быў адказны за мерапрыемства, раскрыць рот і вымавіць некалькі словаў пра *«сённяшні векапомны дзень у гісторыі двух брацкіх народаў»*, як народ, пакідаўшы сцягі і транспаранты, пачаў масава сыходзіць з мітынгу. Арганізатары ад такой «несвядомасці» былі ў разгубленасці, але, каб захаваць прыстойнасць, хуценька далі слова прадстаўнікам «прагрэсіўнай грамадскасці» ў асобе адстаўнога генерала, некалькіх ветэранаў і палымянага камуніста, дэпутата лукашэнкаўскай палаты Касцяна, пасля чаго была спешна прынята рэзалюцыя ў падтрымку новастворанага саюза, за якую прагаласавала прыкладна паўтары тысячы чалавек (астатнія пакінулі месца значна раней).

Мітынг працягваўся 30 хвілін. Пасля яго заканчэння перад Палацам спорту заставалася група старых камуністаў, якія доўга віншавалі адзін аднаго з нараджэннем новага Савецкага Саюза.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

*Удзельнікі прыехалі на мітынг з парасонамі, бо ішоў дождж. Некаторым не пашанцавала: давялося трымаць партрэты.*



*За снапом мікрафонаў шаноўнага генерала было не відаць. Але ж пачуць маглі ўсе, хто да таго часу яшчэ не ўцёк.*



# Представители Верховного Совета готовы к работе в согласительной комиссии

Похоже, переговоры между разогнанным Верховным Советом и Лукашенко при посредничестве европейских организаций вот-вот начнутся. Едва ли разумно было бы отказываться от таких переговоров. Нужно использовать все возможности — тем более, что их набор для белорусской оппозиции не так уж широк.

С другой стороны, понятно, что режим идет на эти переговоры не из любви к демократии. Оппозиция должна быть готовой к безудержной демагогии и лжи со стороны своих противников, к подмене понятий, к попыткам, не делая никаких уступок по существу, представить сам факт проведения переговоров как проявление высокой демократичности. Пробовали же недавно назвать «предоставлением эфира оппозиции» появление на белорусском телеэкране Ю.Ходыко — и это при том, что профессору не только не дали выступить, но даже прерывали, когда он задавал свой вопрос диктатору, — в то время как Лукашенко в этой передаче солировал несколько часов. Кстати, одним из условий участия в переговорах должно стать предоставление участникам от ВС теле- и радиоэфира — с тем, чтобы их позиция прозвучала в их собственном исполнении, а не в интерпретации придворных журналистов.



***Заместитель председателя Верховного Совета Геннадий КАРПЕНКО, который вместе с Мечеславом Грибом и Петром Кравченко входит в делегацию ВС на предстоящих переговорах, прокомментировал ситуацию для газеты СВАБОДА.***

— Переговоры предполагается начать уже на этой неделе. В состав согласительной комиссии войдут по 3 представителя от Лукашенко, от Верховного Совета и от двух европейских организаций — Евросоюза и, вероятно, Совета Европы. Персональный состав делегации от европейских организаций пока неизвестен, но, скорей всего, возглавит ее посол Европейской комиссии Луис Моррена.

**— Почему, на ваш взгляд, Лукашенко, который до сих пор демонстративно игнорировал позицию всей Европы по отношению к его режиму, сейчас пошел на какие-то подвижки?**

— До сих пор не столько он игнорировал позицию Европы, сколько Европа закрыла перед ним ворота. Это обернулось потерей не только политических, но и экономических связей, и даже гуманитарных контактов. И вот результат: только за последнее время цены на мясомолочные продукты выросли у нас на 30%. Здравоохранение вообще находится в катастрофическом положении — человеку назначают лечение в больнице, только если он сам предоставит лекарства. Средняя продолжительность жизни мужского населения Беларуси составляет 53 года. В общем, можно сказать, что конфронтация Лукашенко с Европой приводит к тяжелейшим последствиям — сейчас на карту поставлено выживание народа Беларуси.

**— На переговорах будет идти речь о новых выборах в парламент и о внесении изменений в Конституцию. Давайте уточним: в какой парламент и в какую конституцию? В Верховный Совет или в «палату»? Изменения в Конституцию 1994 года или в лукашенковскую «конституцию»? И если даже за основу будет взята Конституция 1994 г., не будут ли представители Лукашенко протаскивать туда изменения, изменяющие ее до неузнаваемости и закрепляющие диктаторские полномочия, основываясь якобы на результатах «референдума» — при том, что вопиющие нарушения законодательства не дают возможности воспринимать этот «референдум» даже как консультативный?**

— Я однозначно заявляю, что референдум был проведен с огромнейшими нарушениями, и его итоги действительно не могут быть признаны ни в каком виде, даже в качестве консультативного. Вместе с тем президент Беларуси, по Конституции, имеет право вносить любые предложения по изменению и дополнению Основного Закона — и Верховный Совет обязан их рассмотреть. Так что мы и не будем обсуждать вопрос, был референдум обязательным или консультативным — все равно его результаты сфальсифицированы. Мы будем исходить из того, что проект, вынесенный на этот «референдум» — это пакет президентских предложений по уточнению Конституции.

Кроме того, делегация Евросоюза и Совета Европы намерена представить на обсуждение свой проект конституции. Но, в любом случае, диктаторские полномочия в согласованный вариант протащить не удастся: во-первых, потому, что основное условие европейских организаций — это принцип разделения властей, а во-вторых, окончательное решение по принятию поправок к Конституции будет принимать единственный законный парламент, Верховный Совет 13-го созыва — это условие выдвигают и ВС, и Евросоюз, и Совет Европы. Таким же образом будет определено и название законодательного органа — Верховный Совет, палата представителей либо нечто иное — главное, чтобы это была дееспособная, не зависящая от президента ветвь власти.

**— Не будет ли Лукашенко на словах имитировать добрую волю к диалогу, а на деле затягивать переговоры? И скажет Европе: вот, мол, переговоры идут, так почему же вы держите меня в международной изоляции...**

— Основное условие снятия политической и экономической блокады — это восстановление демократических принципов в нашей стране. Так что никакая имитация Лукашенко не поможет — сам факт переговоров не приведет к снятию блокады, пока результатом не станет практическое установление этих демократических принципов. Если Лукашенко думает о народе Беларуси (ведь именно народу, а не президентской команде приходится из-за политики режима все туже затягивать пояса) — тогда Лукашенко придется отказаться от имитации и пойти на реальные демократические изменения. Если нет — народ Беларуси, по вине Лукашенко, ждут тяжелейшие испытания.

Вадим КАЗНАЧЕЕВ

## «Теракт» в лингвистическом университете

**В день подписания договора между Лукашенко и Ельциным на крыльце столичного лингвистического университета (бывшего «иньяза») столпилось необычно много людей.**

Уж не решила ли администрация вуза 23 мая провести обязательное мероприятие в поддержку союза, не отходя от стен родного заведения? Не потому ли рядом на улице стоял милицейский «уазик»? Все, однако, объясняется иначе: «уазик» отличался от привычных милицейских машин надписью на боку — «Разминирование».

Кто-то, видимо, решил отметить подписание договора «взрывом», чем вызвал ворчание вернувшихся с официального митинга студентов, у которых была надобность попасть в здание, куда их, само собой, не пустили. Исключение сделали лишь для одного — нагруженного красными флагами. Наверное, милиционеры исходили из того, что знаменосцу не должны быть страшны ни пули, ни мины.

Между тем студенты поделились с корреспондентом СВАБОДЫ своими впечатлениями от официального митинга. *«Народу нагнали кучу, а что толку: болтовня одна». «Слушать эту чепуху нет сил — уши вянут». «Вы не думайте: нас на митинг хоть и заставили пойти — но мы все равно Луку не любим».*

«Разминирование», как и следовало ожидать, закончилось благополучно: жертв и разрушений нет (ввиду отсутствия взрывного устройства).

Вадим КАЗНАЧЕЕВ

 



СВАБОДА
27 траўня 1997 г., № 55

# Комаровский скандал

## *Кооперативно-совхозное сумасшествие*

*– Гражданин Лепешко!*
*– Я не гражданин Лепешко.*
*– А кто Вы?*
*– Я гражданин Советского Союза!*
*– К Вам так и обращаться, без фамилии?*
*– Да.*

(Из разговора 9 мая начальника криминальной милиции Советского РОВД г-на Савицкого и замдиректора Комаровского рынка г-на Лепешко.)

**В прошлом году шведские ученые долго исследовали психо-физическое здоровье взрослого населения Беларуси. Исследования проводились в рамках изучения последствий аварии на Чернобыльской АЭС. Шведы пришли к ужасным выводам: в начале следующего столетия 50% взрослого населения нашей страны будут страдать нервно-психическими расстройствами различной степени тяжести. Однако, похоже, что этот прогноз сбывается уже сейчас. Такого количества скандалов и конфликтов, при этом достаточно масштабных, в Беларуси не было давно.**



*На снимках: директор Комаровского рынка Виктор Романенков и шеф президентской Службы безопасности Юрий Бородич (справа).*

### Трезвость – опять норма жизни

После разгона Борисовской номенклатуры и указа Александра Лукашенко N 28 «Об укреплении дисциплины» борьба с пьянством на рабочем месте постепенно приобретает масштабы общенациональной кампании. Все праздники в государственных учреждениях подвергаются проверкам или милицейским облавам. На предприятиях торжества проходят украдкой, специальное совещание о вреде пьянства проводили даже с сотрудниками администрации президента. Возможно, антиалкогольная кампания действительно вызвана тем, что президент Лукашенко, как он сам не раз заявлял, не любит тех, кто много пьет. Однако пока указ президента — новое орудие устрашения.

### Пьяным оказывать содействие, трезвых считать дураками!

Пить в Беларуси запрещено в государственных структурах на рабочем месте и в рабочее время. Теперь это хорошо усвоит директор столичного Комаровского рынка Виктор Романенков. Государственные газеты в таких красках описали милицейский рейд 9 мая на рынок в поисках пьяных, словно речь шла о разгоне подразделениями ОМОНа митинга оппозиции.

Директор Комаровского рынка — набожный славянин и одновременно убежденный коммунист. В его рабочем кабинете висят иконы и портреты президента Лукашенко. Он чтит Уголовный кодекс, православные праздники и отмечает все торжественные даты еще со времен Советского Союза. 9 мая на Комаровском рынке тоже отмечали. По распоряжению директора, работники ГП «МКР» изготовили *«два транспаранта с текстом «С Днем Победы, дорогие друзья!», произвели дополнительную закупку 12 национальных флагов для оформления здания, подготовили музыкальную программу»*, приняли участие в демонстрации и возложении цветов к памятнику Победы и, как написано в одном из протоколов, *«в хорошем настроении возвращались на рынок»*. В это время около 40 сотрудников Советского РОВД ворвались на территорию рынка, «вырубили» молодую охрану Комаровки и начали вылавливать пьяных работников. В жалобном письме Романенкова президенту это выглядело очень драматично: *«9 мая 1997 года, около 14 часов, в нарушение части 3 статьи 6 Закона «О милиции», без каких-либо разъяснений, на территории ГП «МКР» задержано около 10 человек (контролеров, машинисток вместе с женами и мужьями), бывших в этот день выходными и прибывшими на предприятие после праздничного шествия в колонне ГП «МКР». Все они были доставлены на освидетельствование и ему подвергнуты, оказались трезвыми, за исключением трех лиц, имевших легкую степень опьянения и употребивших спиртные напитки в точке общественного питания (кафе «Сытый папа»). Несмотря на это, в нарушение ст.241 Кодекса об административных правонарушениях, произведено их административное задержание и все они доставлены в Советский РОВД, где находились до 20 часов 45 минут, что является нарушением ст.242 Кодекса об административных правонарушениях... В процессе изнурительных и беспрерывных опросов применялось насилие (удары по рукам), угрозы путем демонстрации оружия, возможности длительного задержания, увольнения с работы»*.

Досталось и самому директору: *«В служебных помещениях ГП «МКР» к директору, секретарю, работникам Службы охраны и безопасности, генералу Баранкевичу А.И. по указанию зам.начальника Советского РОВД Бусло безосновательно применено грубое физическое насилие (вытаскивание и выталкивание из кабинетов, выкручивание рук, удары по различным частям тела, волочение по полу коридоров и т.п.)»*.

Все, что происходило, снимали операторы РОВД и Комаровского рынка. Отснятый видеоматериал можно продавать как увлекательный триллер — там очень много занятных эпизодов.

Самой горячей точкой был кабинет директора. Виктор Романенков истошно кричал на начальника криминальной милиции Советского района Савицкого и начальника ОБЭПа Круглякова и требовал, чтобы они прослушали видеозапись выступления Александра Лукашенко о Комаровском рынке. Милиционеры же хотели посмотреть, накрыты ли столы в столовой рынка. Директор Комаровки вызвал по телефону кого-то из службы безопасности президента и до их приезда отказывался сдвинуться с места. Из высказываний Романенкова можно было понять, что есть место, которое он не хочет показывать оперативникам.

После долгих препирательств оперативникам дверь в столовую рынка все-таки открыли: там с демонстративным спокойствием сидел скандально известный политик в отставке генерал Баранкевич. Водку и закуску милиция не нашла. Тем не менее «менты», как их называл гражданин Советского Союза Лепешко, пошли на принцип и решили отвезти директора рынка на медицинское освидетельствование на предмет алкогольного опьянения. От приглашения Виктор Романенков, отказался. Тогда его действительно попытались увести силой. Директор рынка звал на помощь: *«Вызовите мою службу безопасности. Служба безопасности, на помощь! Не давайте своего директора в обиду!»* Генерал Баранкевич кинулся защищать своего друга, но безуспешно. В коридоре директор упал и закрыл глаза. Женщины закричали, что он умер. Виктор Романенков, сложив руки на груди, громко и четко повторял: *«Они все ответят перед президентом»*. И в этот самый драматический момент вдруг появляется статный подполковник из Службы безопасности президента Беларуси. Директор Романенков был спасен. Начался разбор полетов.

Милиция сослалась на поступивший анонимный сигнал о том, что руководство Комаровского рынка в рабочее время отмечает день Победы. Сам директор рынка утверждает, что намерения распивать спиртные напитки ни у него, ни у его гостей не было. Между тем по результатам наркологической экспертизы на предмет наличия в крови алкоголя нетрезвыми оказалось несколько работников рынка, в том числе сотрудники местной службы безопасности.

К тому же в кабинете директора было найдено несколько неучтенных миллионов белорусских рублей. Это оказалась плата за аренду торговых мест. Хотя обычно арендная плата вносится через бухгалтерию рынка. Сумма, найденная милицией, в документах бухгалтерской отчетности отражена не была. Деньги за аренду были уплачены без лишних формальностей, напрямую руководству рынка. Обычно в подобных случаях, допустившие нарушения руководители покорно соглашаются с милицией. Однако директор Комаровки сдаваться не собирался.

### Базарная ссора на контроле у президента

В этот, вообщем-то, заурядный конфликт, в котором вполне могла расставить точки над «і» районная прокуратура вмешался сам Александр Лукашенко. Как известно, президент поручил руководителю своей Службы безопасности Юрию Бородичу и госсекретарю совета безопасности Виктору Шейману разобраться в происшествии и доложить о результатах служебного расследования к 1 июня.

Но определенные результаты «комаровского конфликта» уже имеются. От занимаемой должности временно отстранен начальник Советского РОВД Николай Конакоров, а также начальник отделения милиции на Комаровском рынке Владимир Тайников. Не исключено, что дальнейший ход этого разбирательства приведет к отставкам и других руководителей райотдела, а возможно, будет иметь печальные последствия и для более высоких милицейских начальников.

Милиция, естественно, настаивает на том, что пыталась всего лишь добросовестно выполнить президентский «антиалкогольный» указ и в доказательство предоставляет видеозапись этой операции.

Комаровский конфликт интересен своей подоплекой. Скандалы вокруг главного продовольственного рынка Беларуси не утихают уже полгода. Романенков и президент Лукашенко уверены, что это вызвано начавшейся там борьбой с мафией. Однако, по нашим данным, в этом плане на Комаровке изменилось не много. Речь можно вести не о борьбе с криминалом вообще, а о переделе влияния между различными группами.

Виктор Романенков вообще производит впечатление странного человека. Он собрал вокруг себя отставных работников КГБ и МО, сделал рынок центром славянского единства. Государственное предприятие «Комаровский рынок» стало своеобразной резервацией со своим президентом, правительством, армией, и газетой. Есть на рынке даже свое телевидение, вернее телеоператор, который постоянно снимает работу директора. В кабинете Романенкова почти без перерыва прокручиваются видеокадры о директоре и его предприятии. Возможно, нелюбовь Советского РОВД к новому руководству объясняется тем, что милиционеры потеряли былые сверхдоходы. Но повторим еще раз, что бандитизма на Комаровке меньше не стало.

Несомненно, что руководители Советского РОВД стали пешками в какой-то интриге наверху властной пирамиды, а отнюдь не попались из-за собственной алчности. Тем более, что приди они на час позже, их наверняка встретили бы накрытые по полной программе столы.

Трудно поверить, чтобы столь опытный работник милиции как Николай Конакоров не представлял себе «пикантность» ситуации и по собственной инициативе решил разоблачить назначенного самим президентом директора Комаровки. Вполне возможно, что у какого-либо высокого начальника созрел план нового «дела» наподобие борисовского. А после того, как план не удался, вину было решено свалить на сотрудников милиции.

Скандал на Комаровке неожиданно по-новому открыл для всех службу безопасности президента Лукашенко. Мы уже несколько раз слышали о том, что начальник службы, бывший командир «Альфы» Юрий Бородич пытается повторить судьбу известного телохранителя Александра Коржакова и ведет борьбу за влияние внутри администрации и контроль над отдельными сферами бизнеса. Постепенно становятся известными факты, подтверждающие эти слухи, хотя один из наиболее высокопоставленных сотрудников президентской администрации признался, что у главного белорусского телохранителя желание «порулить» действительно есть, но умений для этого не хватает.

Недавно один из корреспондентов «Белорусской деловой газеты» в одном из минских ресторанов стал свидетелем бурного обсуждения российским бизнесменом, директором виноводочного завода из Могилевской области и сотрудником администрации президента Беларуси перспектив совместного экспорта белорусской водки в Россию. В качестве «крыши» (а именно этот термин постоянно звучал) в разговоре фигурировал Юрий Бородич и его Служба.

Еще более откровенно вел себя 9 мая директор Комаровского рынка Виктор Романенков. Он кричал прибывшим милиционерам, что о делах на рынке докладывает лично Юрию Бородичу и подчиняться будет только службе безопасности президента. Впрочем, не исключаем, что слухи о растущей мощи Бородича сильно преувеличены.

**Павел ШЕРЕМЕТ**
**Андрей МАХОВСКИЙ**
**Алесь ШКЛОВСКИЙ**
*«Белорусская деловая газета»*

### Появится еще три «Макдональдса»

Инвестиции «Макдональдса» в белорусскую экономику в 1996 году составили 8 млн. долларов США. До конца нынешнего года компания планирует вложить еще примерно столько же в свой бизнес в Минске. Согласно статистике, за шесть месяцев работы «Макдональдса» на белорусском рынке ежемесячное количество посетителей его ресторанов составляет примерно 40 тысяч человек.

Помимо существующих сегодня в Минске трех ресторанов компании «Макдональдс», сейчас ведется строительство еще двух. Один из них будет расположен на ул.Притыцкого, и его строительство будет продолжаться в течение трех с половиной месяцев. Открытие запланировано на 31 августа 1997 года (Макдональдс сделает своеобразный подарок школьникам перед началом учебного года). Этот ресторан будет представлять собой «Макдрайв» (то есть будет предлагать услуги также проголодавшимся особам за рулем, которые смогут получить свою булку с котлетой не выходя из машины) и рассчитывается на 75 мест.

Пятый ресторан будет располагаться на Привокзальной площади и вмещать в себя 190 мест. Его открытие планируется в октябре нынешнего года. Следующий ресторан «Макдональдс» планирует построить в Серебрянке (срок его открытия пока не определен, но, по планам компании, это произойдет тоже в 1997 году). Открытие новых ресторанов должно создать примерно 100–120 рабочих мест.

Кроме расширения своей ресторанной сети, «Макдональдс» переходит к созданию системы белорусских поставщиков. Во-первых, таким образом компания отчасти решит проблемы конвертации белорусских рублей в валюту, что сегодня существенно осложняет работу (да и цены в меню будут в меньшей степени подвержены курсовым колебаниям). Во-вторых, идеология «Макдональдса» заключена в использовании всего местного — так делается в каждой стране. Как сообщили представители компании, поставщики мяса уже найдены, а к концу года все компоненты будут поставляться белорусскими производителями.

**Вероника СТРОЕВА**

СВАБОДА
27 траўня 1997 г., № 55

# Несовпадение эпох

*Снова о герое нашего времени, или Как помочь хныкающему белорусскому интеллигенту*

Геннадий САМУСЕВИЧ

В последнее время на страницах газет появляются статьи, в которых авторы анализируют ошибки белорусской национальной оппозиции и их причины. Бывает, что слабости и изъяны белорусского возрожденчества подмечены очень точно и тонко, и всё написанное было бы не так уж плохо — если бы не потуги на программный характер статей, не стремление направить «заблудшую» оппозицию на путь истинный в деле национального возрождения. К сожалению, основные идеи авторов не рациональные, а спиритуально-возвышенные.

По мнению многих, белорусское национальное возрождение действительно переживает кризис. Причина этого некоторым видится в ошибочной тактике лидеров и партий, в том, что они делали и делают ставку на массовое политическое движение, а не на элиту нации. Приходится также слышать, что мы совершенно не обращаем внимания на белорусскую деревню, откуда наши корни и истоки. И вообще, нам всем пора задать более высокий нравственный стандарт — как сделали, например, народы Балтии. Дескать, следует объединиться и сообща привести к власти порядочного человека. Вот и С.Дубавец в весьма примечательной и интересной статье «Герой нашего времени» (СВАБОДА, № 36) утверждает, что «смыслом национального возрождения народов [былого СССР] стало утверждение своего стереотипа порядочного человека», «стремление утвердить национальный стереотип порядочности и привести к власти порядочных людей». Между тем, как мне кажется, речь должна идти не только о вечных, абстрактных идеалах «национальной порядочности», но и о конкретных устремлениях современных, сегодняшних людей.

## Одежды и декорации номенклатуры

Чего больше в интеллигентских размышлениях о «порядочной власти» — социально-философского мечтательства или политической наивности? Что за иллюзии насчет «порядочной власти»? Советский Союз был явно обречен в конце 80-х под навалом нерешенных десятилетиями проблем, под напором движения проснувшихся народов (за исключением, пожалуй, так и не проснувшейся Беларуси, но это отдельная тема. — **Г.С.**). Коммунистическая номенклатура ничего не могла поделать с народами, стремящимися самоидентифицировать себя как нации через обращение к своему историческому и культурному наследию. С народами, стремящимися выстроить и отстоять свою национальную государственность, свои национальные интересы в постсоветской реальности. А что касается «стереотипа порядочности» — то он един практически у всех наций, во всех мировых религиях.

Что, разве Балтия не знала политических скандалов, не знала в первые годы своей постсоветской истории случаев коррупции высших чиновников, фактов телефонного прослушивания политических оппонентов, подлогов, грубой компрометации неугодных политиков? Все это было, и во многом похоже, как у нас в Беларуси. Но разница в том, что тамошняя национальная интеллигенция пришла к власти на волне *мощного национально-освободительного движения*. Настолько мощного, что подавляющее большинство былой коммунистической номенклатуры почло за благо для себя срочно примерить социал-демократические одежды взамен обветшавших ленинских, признать (во имя сохранения хотя бы частицы политической и экономической власти) единственно возможные цивилизованные правила политической игры.

У нас в Беларуси этого не произошло. Осталась та же коммунистическая номенклатура и та же коммунистическая власть. Под незначительным давлением оппозиции, а в большей степени под давлением грозных событий в соседних республиках номенклатура лишь поменяла на короткое время свои партийные декорации на национальные — во имя временной перегруппировки сил, сохранения политической власти: ввела парламентскую республику, настоящую символику, придала белорусскому языку статус государственного, с перепугу провозгласила неприсоединение к военным блокам и нейтралитет и... стала выжидать. И вот спустя несколько лет мы видим, что как только на политическом горизонте появился подходящий грозный жених на власть, так сразу же была забыта идея парламентской республики, отреклись от государственных символов, вернули привычный русский язык, забыли о нейтралитете, заболтали реформы, тем самым сильно дискредитировав в глазах «совка» саму идею демократии и рыночной экономики.

«Совок» так и говорит: «Был у власти Кебич, был у власти Шушкевич — и что они нам дали, демократы? А Григорьевич всех приструнил!» И неведомо тому «совку», что не были у власти ни Шушкевич, ни тем более демократы. Была и поныне есть коммунистическая номенклатура, осуществляющая свою власть через доверенных лиц — например, тогда Кебича, а ныне господин-товарища Лукашенко и просто товарища Малофеева.

## Кто мы такие

Давайте признаем очевидное: сегодняшний режим стал возможным потому, что не было и нет в Беларуси мощного национального движения, не было и нет политической консолидации интеллигенции, нет общепризнанного национального и духовного лидера, потому что нет нации в целом, а есть население — русскоязычное в большинстве, потерявшее свои древние культурные и национальные корни. Население, разделенное также по религиозному признаку: полные атеисты, православные, католики, протестанты, иудеи, мусульмане... Ни для кого нет безусловного церковного авторитета — какой, например, есть у поляков. Есть население, угрожающе люмпенизирующееся, а также есть непреходящая власть шариковых и швондеров, вчера сменивших красные партийные билеты на лоск заграничных костюмов, иномарки, коттеджи, недвижимую собственность и наличный счет за границей. Им что коммунизм, что капитализм — все едино, была бы сохранена монополия на политическую власть (можно подсластить пилюлю и допустить видимость демократии), лишь бы было заморожено движение к гражданскому обществу, к становлению нации.

Белорусская нация либо еще не сложилась, либо уже разложилась в большей степени, чем у всех остальных народов былой Российской империи. Фактически мы, белорусы, на грани полного этнического, а после Чернобыля можно утверждать, что и физического исчезновения — если не будет проявлена **воля к национальному выживанию**. Русский язык вытесняет беларускую мову — это факт. Российский дикий капитализм легко прикончит белорусский «рыночный социализм» — сомневаться нечего. Нынешняя политическая элита стыдится своих национальных корней и языка, а условие политического самосохранения видит в предательстве национальных белорусских интересов.

Это не просто опасно. Для нас, немногих национально мыслящих белорусов в своей Беларуси, лишенных доступа к телевидению, радио, разобщенных склоками и партийными амбициями вождей — это *смертельно опасно*. Что прекрасно понимают власть предержащие — потому так и действуют.

## Три сосны как источник интеллигентских заблуждений

Следуя логике некоторых аналитиков, выходит, что наши национальные демократы с самого начала в своей политической борьбе с прокоммунистическим Верховным Советом сделали не ту ставку — ставку не на элиту Беларуси, а на народ, на «совка». Вот и проиграли. А с элитой бы выиграли? Да каким образом? Отрядили бы депутацию и убедили бы номенклатуру отдать власть «порядочным», чтобы провести необходимые преобразования в интересах большинства?

Интеллигенция опять блуждает в трех соснах и возвращается к идейным спорам рубежа XIX—XX веков. Тогда в либеральных кругах Европы тоже кипели политические и историко-философские страсти: кто делает историю? Толпа, народ, массы — или герои, элита нации?

Хочу еще раз напомнить, чем закончились эти споры в России. Придя к власти в феврале 17-го, элита не смогла решить ни одной крупной проблемы, укрепить и удержать власть. Слишком глубокой оказалась пропасть между ними, «элитой», и народом. Они обессилили себя бесконечным теоретизированием, выпячиванием амбиций, междуусобной борьбой и традиционной для России имперской политикой. В результате власть досталась нахрапистому, проворному хаму, швондеру, не отвлекающемуся на «интеллигентские разборки». А т.н. «элита нации» уселась строчить мемуары в эмиграции и дальше выяснять свои отношения с извечным русским вопросом: «Кто виноват?», а огромная часть той элиты полегла на полях гражданской войны. Эти варианты сегодня никого не устраивают.

Можно и нужно презирать городское быдло, безликую серую массу, превратившуюся из коренных белорусов в городское население, но не нужно заблуждаться и насчет особости белорусского духа в деревне. А главное — не нужно этого противопоставления городских, деревенских, интеллигенции. Мы все жертвы коммунистического эксперимента, и работать нужно не с городскими или деревенскими, а со всеми. Мы все нуждаемся в социальной, духовной и экономической терапии.

Особенно должна искать пути к консолидации белорусская интеллигенция. Наша борьба с нынешним авторитарным режимом — это политическая борьба *национально, демократически мыслящих интеллигентов, рабочих, крестьян*, невзирая на все наши достоинства, недостатки, заблуждения. Это борьба с режимом его величества хама, примитивного «совка», гениального манипулятора и демагога, имеющего мощнейшую поддержку в народной серой толще.

В политике силе не всегда может противостоять порядочность, «тусовка» порядочных людей. Силе хама должна противостоять своя порядочная сила. В конечном счете хам считается только с силой. Кто не признает этого очевидного факта в политике, тот либо интеллигентствующий краснобай, либо «агент» в интеллигентской среде, вносящий смуту, растерянность, раздоры, склоки, чтобы ослабить сопротивление.

## Время молодых героев

Передовая мыслящая белорусская интеллигенция не может позволить себе роскошь разводить философию краха и упадничества в тот самый момент, когда с поразительной ясностью обозначился феномен «славянского фашизма», когда за ее спиной и за спиной ни черта не осознающей массы торгуют оптом и в розницу белорусскими национальными интересами, сколачивают антизападный военный блок, создают видимость равноправных союзных отношений между Россией и Беларусью.

Сегодня речь идет фактически лишь об одном: что (не **кто** — именно **что**) возьмет верх? Российский капитализм прирастет ли нашими заводами, фабриками, недрами, нашим «совком» — либо белорусский авторитаризм, объединившись с красно-коричневыми России, за спиной которых миллионы недовольных и «уставших от реформ», отбросит наши народы на десятилетия назад — вновь от свободы, демократии, прав человека, достойного существования. Но это не дает права на бездействие. При любом исходе нужно думать о главном: как организовать наше сопротивление, отстоять свои национальные интересы.

А если мы, состоявшиеся интеллигенты, не способны отстоять свои национальные интересы, то это сделает молодежь. И мне хочется, перефразируя давние слова одного картавящего лысенького дяденьки, сказать: «Дайте нам сейчас 100 тысяч национально мыслящих молодых белорусов в Минске, политически и организационно стойких, и мы изменим судьбу Беларуси в лучшую сторону». Правда в том, что сейчас их нет — этих 100 тысяч. Но они обязательно будут! Иначе нынешняя власть не спешила бы так возродить всебелорусские пионерские ясли и комсомольскую продленку для всей подросшей молодежи в рамках чуть-чуть подштопанной великодержавности.

Поздно, господа-товарищи! Герой нашего времени — это молодой герой. Нынешняя молодежь выбирает не только «пепси», стиль своей музыки и «крутую» шмотку. Она выбирает свой, новый стиль жизни, в котором уже нет и быть не может места стареющим и лысеющим усатым дядям, пусть даже в стильных костюмах. Молодой герой нашего времени выбирает свою землю, свою страну, свое будущее. Молодой герой изначально претендует на то, чтобы быть интеллигенцией и войти в элиту. Компьютер, *Internet*, спутниковое телевидение, видео и даже тривиальный Майкл Джексон не оставляют никакого шанса всеподданнейшей бригаде штатных пропагандистов и селекторным радио- и телетрансляциям о последних надоях вчерашней белорусской коровы.

Здесь больше, чем несовпадение стилей. Это — несовпадение эпох.



*Молодое поколение выбирает не только «пепси».*

Уладзімір АРЛОЎ, Генадзь САГАНОВІЧ

# Дзесяць вякоў беларускай гісторыі

*Вялікае Княства Літоўскае*

## 1557. Нарадзіўся Леў Сапега

Леў Сапега паходзіў са старажытнага праваслаўнага беларускага роду, карані якога былі на Смаленшчыне. Будучы вялікі канцлер Вялікага Княства Літоўскага нарадзіўся 4 красавіка ў 1557 годзе ў вёсцы Астроўна, якая цяпер у Бешанковіцкім раёне Віцебскай вобласці. Шасцігадовага хлопчыка бацькі завезлі ў Нясвіж, дзе ягоным апекуном і мецэнатам стаў князь Мікалай Радзівіл Чорны.

Тым часам Нясвіж быў адным з культурных цэнтраў Вялікага Княства. Высокім роўнем адукацыі славілася адчыненая Радзівіламі школа. Якраз тады ў тамтэйшай друкарні Сымон Будны выдаў свае беларускія кнігі. Мікалай Чорны вызнаваў кальвінізм, але пры яго двары панавала талеранцыя, што назаўсёды заклала ў душу Сапегі непрыняцце рэлігійнага фанатызму.

Схільнасць да навукаў, выдатныя здольнасці і вольнае валоданне некалькімі мовамі спрыялі таму, што князь Радзівіл паслаў трынаццацігадовага Льва разам з сваімі сынамі вучыцца ў Ляйпцыгскі універсітэт. Там Сапега вывучаў гісторыю, філасофію і права. Са сценаў альма-матэр ён выйшаў ужо добра і ўсебакова падрыхтаваным палітыкам. Сваёй адукаванасцю і выдатным веданнем лацінскае мовы Сапега ўразіў вялікага князя Сцяпана Батуру. З парады сваіх апекуноў Радзівілаў малады палітык застаўся пры двары, каб бараніць інтарэсы Вялікага Княства, якое на Люблінскай вуніі 1569 года вымушанае было пайсці на небяспечнае зближэнне з Польшчай.

У няпоўныя дваццаць тры гады ён ужо займаў пасаду сакратара Княства. Адданы патрыёт Бацькаўшчыны, Сапега вёў паспяховую палітыку процістаяння імкненню Кароны да поўнай гегемоніі над Вялікім Княствам. Умацаванню становішча Сапегі паспрыяла распачатая Масковіяй вайна. Сваім коштам ён стварыў і ўзброіў гусарскі полк, на чале якога здабыў вайсковую славу ў бітве пры Вялікіх Луках і ў аблозе Пскова.

Пасля вайны Леў Сапега ўзначаліў пасольства ў Маскву і падпісаў мірную дамову, паводле якой Масква мусіла вярнуць Полаччыну і Інфлянты. Гэта была вялікая дыпламатычная ўдача, і, вярнуўшыся на радзіму, кіраўнік пасольства быў прызначаны падканцлерам, а потым і вялікім канцлерам — другім чалавекам у дзяржаве пасля вялікага князя. Захоўваючы гэтую пасаду на працягу трыццаці з лішнім гадоў, Леў Сапега, па сутнасці, вызначаў нутраную і замежную палітыку Княства.

Вялікі князь Жыгімонт Ваза даручыў яму кіраўніцтва падрыхтоўкаю Трэцяга Статута Вялікага Княства Літоўскага. Прыняцце ў 1588 годзе гэтага сама прагрэсіўнага на той час у Эўропе зводу феадальнага права было бліскучай палітычнай перамогаю Сапегі. Статут ніяк не спрыяў зліццю Вялікага Княства з Каронай, бо захаваў артыкулы пра самастойнасць Княства ў складзе канфедэрацыі і забарону палякам займаць тут пасады і набываць зямлю. Новы звод законаў быў выдадзены пад асабістым наглядам Сапегі, з ягонымі прадмовамі і ягоным коштам.

Захаванню самастойнасці Княства служыла і стварэнне пры беспасярэднім удзеле Сапегі Галоўнага трыбунала Літоўскага — найвышэйшага апеляцыйнага суда, пастановы якога мелі сілу пастановаў сойма.

Вялікі канцлер, хоць і вызнаваў каталіцтва, быў прыхільнікам вуніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, што, на ягоную думку, заклікана была ўмацаваць дзяржаву. У сваіх лістах да полацкага вуніяцкага арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча Сапега неаднаразова засцерагаў уладыку ад гвалтоўных дзеянняў у дачыненні да праціўнікаў вуніяцтва.

Пры канцы жыцця Леў Сапега колькі гадоў быў вялікім гетманам. І тут ён паказаў сябе не толькі таленавітым ваяводам, але і чалавекам, што інтарэсы Айчыны ставіць вышэй за ўсё іншае. Калі на Вялікае Княства напалі шведы, вялікі гетман і ягоны сын Ян аддалі на барацьбу з ворагам усё сваё багацце.

Вялікія заслугі ён мае і як мецэнат, што дапамагаў мастакам і пісьменнікам. Паэт XVI стагоддзя Андрэй Рымша ў сваёй одзе на герб Льва Сапегі пісаў:

При которих з оружъем
конный воин стоить,
Знаком того иж ся з них
не один не боить.
Служить своим спадарем
ку каждой потребе,
Не литуючи скарбов,
ни самого себе.

Рупнасцю Сапегі былі ўпарадкаваны і перапісаны некалькі сотняў тамоў Літоўскай Метрыкі — архіва нашай дзяржавы, які з'яўляецца бясцэннай гістарычнай крыніцай. Перад сконам, які надышоў у 1633 годзе, ён шчодра адарыў уфундаваныя родам Сапегаў храмы і быў пахаваны ў адным з іх — віленскім касцёле Святога Міхала.

**У. А.**

*Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега. Гравюра пачатку XVI ст.*



## 1562. Сымон Будны распачынае ў Нясвіжы выданне сваіх кніг на роднай мове

Дата нараджэння Буднага таксама невядомая, лічыцца, што гэта адбылося каля 1530 года. У чатырнаццацігадовым узросце будучы знакаміты мысляр-гуманіст паступіў на факультэт вольных мастацтваў Кракаўскага ўніверсітэта. Правёўшы ў ягоных сценах блізу дзесяці гадоў, Будны атрымаў выдатную адукацыю. На старонках ягоных твораў чытач сустракаецца з імёнамі Арыстотэля і Плятона, Дэмасфена і Цыцэрона, Вергілія і Гарацыя, Ціта Лівія і Плінія Старэйшага, Эразма Ратэрдамскага, Францішка Скарыны, Івана Фёдарава... Магчыма, пасля Кракава ён скончыў яшчэ тэалагічны факультэт пратэстанцкага Базэльскага ўніверсітэта.

У 1558 годзе Сымон Будны прыехаў у Вільню і стаў катэхізістам — пратэстанцкім настаўнікам, які па нядзелях, аўторках, пятніцах і святочных днях па-беларуску выкладаў дарослым і дзецям асновы рэфармацыйнага вучэння. Выявіўшы бліскучыя здольнасці, праз два гады ён атрымаў падвышэнне — пасаду прапаведніка ў Клецку. Тут Будны намерыўся заняцца яшчэ і друкаванай прапагандаю ідэяў гуманізму і Рэфармацыі. Разам з нясвіжскім старастам Мацеем Кавячынскім і кальвіністкім прапаведнікам Лаўрэнам Крышкоўскім з фінансавай падтрымкаю беларускіх магнатаў Астафея Валовіча і Мікалая Радзівіла Чорнага Будны заснаваў у 1562 годзе ў Нясвіжы адну з першых у Беларусі друкарняў. Сюды з Вільні быў перавезены шрыфт, якім у свой час карыстаўся Скарына. Пры друкарні была, дарэчы, збудаваная і паперня.

Поўны назоў першай кнігі Буднага, што выйшла з нясвіжскай друкарні 10 чэрвеня 1562 года, чытаецца так: «Катехисис, то ест наука стародавная христианская от светого писма, для простых людей языка руского, в пытаниях и отказех собрана». Аўтар «Катэхізіса» выклаў свае тагачасныя рэлігійна-філасофскія, палітычныя і педагагічныя ідэі. «Каждый господар, — пісаў ён, — цар ли, княз ли, воевода ли, или боярин, или мещанин, кто бы только мел подданных, повинен им сие три речи: напервей выхованье, потом науку, а третье наказанье». Бачачы пагрозу паланізацыі, філосаф рашуча выступіў у абарону беларускай мовы. У «Посвящении» да «Катэхізіса» ён звяртаецца да князёў Радзівілаў з такімі словамі: «Абы ваши княжацкие милости не только в чужеземских языцех кохали, але, бы ся теж и того здавна славного языка словенского розмиловати и оным ся бивити рачыли. Слушная бо реч ест, абы ваши княжацкие милости того народу языка миловати рачили, в котором давные предки отци ваших княжацких милости славные преднейшие преложенства несуть».

У тым жа 1562 годзе з нясвіжскага друкарскага варштата сышоў яшчэ адзін беларускамоўны твор Буднага — «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам», які да нашых дзён не захаваўся.

Неўзабаве Будны становіцца адным з ідэйных правадыроў беларускай Рэфармацыі і ўзначальвае яе радыкальную плынь — так званых антытрынітарыяў. Яны, вядомыя яшчэ як «літоўскія браты» і арыяне, выступалі супроць бальшыні царкоўных абрадаў і догматаў, адмаўлялі Святую Тройцу, не верылі ў замагільны свет і неўміручасць душы. Адстойваючы свае погляды, Будны разгарнуў чынную літаратурна-публіцыстычную і выдавецкую дзейнасць. Велізарных намаганняў патрабаваў ад яго і пераклад на польскую мову Бібліі, які выйшаў у свет у 1572 годзе.

Па смерці Мікалая Радзівіла Чорнага Будны знаходзіць сабе новага магутнага апекуна і брата па веры — беларускага магната Яна Кішку. У сваім замку ў Лоску гэты мецэнат стварае друкарню і робіць свайго падапечнага яе паўнапраўным гаспадаром. Тут Сымон Будны выдае шэраг кніг, сярод якіх Новы запавет з прадмоваю і каментарамі, трактаты «Аб дзвюх прыродах Хрыста», «Аб свецкай уладзе», «Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры».

Філосаф выступае за творчую свабоду асобы і супроць рэлігійнага фанатызму, піша пра неабходнасць засваення культуры іншых народаў і выкрывае праваслаўных дзеячоў, што адмяжоўваліся ад здабыткаў заходнеэўрапейскай навукі і асветы. Ён перакладае з французскай мовы і друкуе кнігу «Пра фурый, або Французскія вар'яцтвы», дзе апавядалася пра жудасныя падзеі Варфаламееўскай ночы, калі каталікі выразалі тысячы пратэстантаў. Пераклад гучыць як папярэджанне грамадству Вялікага Княства Літоўскага, у якім таксама ішла рэлігійная барацьба. Высокую адзнаку адукаваных чытачоў атрымліваюць і пазначаныя несумненным літаратурным талентам вершы Буднага.

Пры канцы жыцця мысляр разышоўся ў поглядах з былымі паплечнікамі. Ён даказваў, што валоданне ўласнасцю, праца на дзяржаўных пасадах, удзел у войнах не пярэчаць духу Эвангелля. За гэта «літоўскія браты» выключылі Буднага з сваёй супольні. Ён мусіў пакінуць Лоск, жыў у розных выпадковых мецэнатаў і ў 1593 годзе ў беларускім мястэчку Вішнева сустрэў сваю смерць.

У Нясвіжы захаваўся будынак, дзе месцілася друкарня Сымона Буднага. Непадалёку ад яго стаіць помнік выдатнаму гуманісту і асветніку.

**У. А.**




*Сымон Будны. Партрэт XVI ст.*

СВАБОДА
27 траўня 1997 г., № 55

# Люты 1563. Войска Івана Жахлівага захапіла Полацак

Ішла Інфлянцкая вайна (у расейскай гістарыяграфіі яна мае назоў Лівонскай). Маскоўскія ваяводы дратавалі Беларусь, неслі на яе зямлю смерць і здзекі. Маскоўшчына рыхтавалася да вялікага паходу. Іван Жахлівы марыў захапіць Полацак — найбуйнейшы і найбагацейшы горад нашай краіны.

У расейскай гістарычнай літаратуры існуе даўная традыцыя ідэалізацыі цара Івана IV. Яго называюць выдатным дыпламатам, філосафам, таленавітым пісьменнікам. З вядомых прычынаў гэтая тэндэнцыя пасьпяхова развівалася ў гады сталіншчыны. У тагачасным бестселеры — рамане В. Костылева «Иван Грозный» цар-бацюхна верна служыць народу, кладзецца спаць і ўстае з адным клопатам — «как служить Богу и как истреблять врагов России». Гэты погляд зняпраўджваюць самі ж знакамітасці расейскай гістарычнай навукі. М. Кастамараў называў Іван IV «чудовищем, которое лжет в каждом слове», а В. Ключэўскі — «зверем от рождения».

Ён з дзяцінства меў садысцкія схільнасці — напрыклад, любіў глядзець, як канаюць скінутыя ім з высокіх крамлёўскіх дахаў таварышы ягоных гульняў. З гадамі садызм зрабіўся для цара жыццёвай патрэбаю: ён уласнаручна забіваў колішніх сяброў, абарваў



Іван Жахлівы, маскоўскі цар у 1547–1584 гг.

сынава жыццё. Эўропа глядзела на яго як на дэспата, роўнага якому не было ні ў Старым, ні ў Новым свеце. Крывавая тыранія напоўніла краіну даносчыкамі і катамі. Менавіта гэты маскоўскі ўладар пакінуў Расеі ў спадчыну ўжо цалкам сфармаванае азіяцкае самаўладдзе, што трымалася на тэроры супроць свайго народа. Не Грозным, а Жахлівым называлі яго на паняволеных землях.

Іван IV асабіста ўзначаліў полацкі паход. Калі верыць маскоўскім пісцам, цар вёў 200 тысяч конніцы, 60 тысяч пяхоты і 80 тысяч абозных. Гісторыкі лічаць такія лічбы моцна завышанымі і пагаджаюцца на 60 тысяч воінаў, але гэта ўсё адно была велізарная сіла. Войска мела 200 гарматаў, у тым ліку чатыры вялікія сценабітныя і 36 камене- і вогнекідальных. Гарматы, порах ды іншы вайсковы рыштунак цягнула на сабе цэлае войска — 40 тысяч «чорных людзей». 31 студзеня 1563 года гэтая арда спынілася на дзвінскіх берагах. Перад ёю ляжала галоўная цвердзь Вялікага Княства – горад з дзевяцівежавым замкам, з дванаццаццю манастырамі і васемнаццаццю храмамі.

Зусім невялікі параўнальна з непрыяцелем гарнізон здавацца тым не менш не збіраўся. Палачане нават учынілі начны вылаз з мэтаю адбіць у ворага артылерыю. Абаронцы горада маглі б вытрымаць доўгую аблогу, каб не памылкі полацкага ваяводы Ста-



Жыгімонт Аўгуст, Вялікі князь Літоўскі і кароль Польскі. Гравюра на дрэве 1551 г.

ніслава Давойны. Першы раз ён спудлаваў, выправіўшы з горада — каб паменшыць колькасць едакоў — дзве тысячы сялянаў, што ўмацоўвалі сцены. Царскія людзі палавілі іх і прымусілі паказаць лясныя ямы з гарадскімі запасамі збожжа. Другі раз Давойна схібіў, калі адвёў абаронцаў у замак і падпаліў астрог з пасадамі. Пад прыкрыццём густога дыму стральцы ўварваліся ў места і перацягнулі туды гарматы. У той дзень палоннымі сталі 11 тысяч навакольных сялянаў, што хаваліся ад захопнікаў за полацкімі сценамі. Варожая артылерыя ўжо магла страляць па замку простай наводкай. Апрача таго, маскавіты падвялі падкоп і ўзарвалі вялікі парахавы прыпас, ад чаго выгарала трыста сажняў сцяны. Тым часам маскоўскае воінства плюндравала Прыдзвінне, выпальваючы ад Дзісны да Дрысы вёску за вёскай.

14 лютага цар загадаў біць з вогненных гарматаў, і за пяць гадзін да світання фартэца загарэлася. Пасля сёмага варожага прыступу ваявода Давойна з дэпутацыяй у складзе полацкага епіскапа Арсеня і лепшых людзей ад шляхты выйшаў з замка і папрасіў літасці. Полацкая шляхта і пяцьсот каронных рыцараў адмовіліся здавацца і адбіваліся яшчэ некалькі дзён, але лёс горада быў вырашаны.

Цар дакляраваў пакінуць абаронцам Полацка волю і маёмасць. Ваявода Давойна, быццам забыўшыся, што дзяржаўнага слова ў Маскоўшчыне ніколі не трымалі, выступіў з фартэцы з усім войскам і артылерыяй. Пасмяяўшыся з веры палачанаў у ягоныя абяцанні, цар Іван акружыў палонных моцнай аховаю і загадаў пяць дзён не даваць ім есці. Мірных гараджанаў выгналі ў поле і таксама ўзялі пад варту. Гарадскі скарб, уласнасць купцоў, шляхты і ўсіх заможных жыхароў цар прысабечыў і адаслаў у сваю сталіцу. Абяцаную волю атрымалі толькі польскія рыцары. Яны мусілі паведаміць свайму гаспадару Жыгімонту Аўгусту, што маскоўскі валадар вайны не прагне, а хоча толькі вярнуць «свае» Валынь, Галіччыну і Беларусь да самай Вільні.

Маскоўскія стральцы ў Інфлянтах. Гравюра 1561 г.




У Полацку жыло шмат юдэяў. Ім, ад старых да немаўлятаў, выпала страшная доля — загінуць пад лёдам Дзвіны і Валовай азярыны. Пскоўскі летапіс апавядае: «Которыя были в городе люди жидове, и князь великий велел их с семьями в воду в речную вметати и утопили их». Такі ж лёс напаткаў каталікоў. Царскія татары пасеклі шаблямі манахаў-бернардзінаў і пусцілі дымам іхны храм. У той дзень апошні раз маліліся Богу і браты-дамініканы. Цар наказаў без усякага суда пазбаўляць жыцця ўсіх, хто хрысціцца не па-праваслаўнаму. Пасля той разні ў горадзе з'явіліся першыя каталіцкія святыя — пакутнікі Адам, Дамінік і Пётра, што загінулі ад стралецкіх шабляў. Паданне кажа, што ў Полацку, калі трэба было змацаваць грамату пячаткай, цар выганяў усіх прэч, каб не бачылі, як з ягоных рук крапае кроў.

Горад ператварыўся ў велізарнае пажарышча. Згарэла ўся яго ўмацаваная частка, дзе было тры тысячы двароў. Ваяводу Давойну з жонкаю і дзецьмі, епіскапа Арсеня, знаных полацкіх шляхцічаў Нeміровіча, Корсака, Ешманаў ды іншых цар адправіў у Масковію. Акупанты абвясцілі ўсіх гараджанаў палоннымі, панішчылі полацкае рыцарства, якое адмовілася перайсці на службу да тырана. Стральцы на вачах у мужоў і бацькоў гвалцілі паважных кабет і маладзенькіх дзяўчатак. Шляхту, мяшчанаў, усіх, хто хаваўся ў месце, Іван загадаў вязаць і гнаць на ўсход.

Удзельнік вайны італьянец Аляксандр Гваніні, які быў віцебскім камендантам, у сваёй «Хронікі Эўрапейскай Сарматыі» паведамляе, што маскоўскі цар вывеў з Полацка 50 тысяч палонных. Польскі гісторык Мацей Стрыйкоўскі (ён на той час таксама служыў у Віцебску) дадае, што гналі іх не па-хрысціянску, а як юдэяў да Вавілона: і кабет, і дзяцей вялі злыганых вяроўкамі і абы-як апранутых. Людзей амаль не кармілі, і яны сотнямі паміралі на зімовых дарогах ад голаду і марозу. Амаль нікому з палоннікаў не пашчасціла вярнуцца на Бацькаўшчыну. Тых, хто не застаўся ў сумётах, у Маскоўшчыне развезлі па розных гарадах і сядзібах. 665 палачанаў па царовым наказе зарэзалі ў вязніцах.

У аддзеле рукапісаў Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбурзе захоўваецца «Псалтыр» другой паловы XVI стагоддзя, дзе можна прачытаць: «Написана сия книга рукою многогрешного и недостойного раба божего Ивана полонянина полоцкого в заключении и во двоих путах связанного».

**У. А.**

# Студзень 1564. Разгром маскоўцаў на рацэ Уле

Захапіўшы беларускае Прыдзвінне, маскоўцы ўвялі жорсткія акупацыйныя парадкі. Сялянаў і месцічаў гналі ў Маскоўшчыну або змушалі цалаваць крыж на вернасць цару і ваяваць супроць братоў. Даведаўшыся пра непрыхільнасць да новае ўлады, царскія ваяводы пасылалі карныя атрады, якія знішчалі цэлыя вёскі, не літуючы ні жанчын, ні дзяцей. Заваёўнікі занеслі з сабою чуму, што пачалася ў 1563-м і касіла людзей чатыры гады. У рукі да ворагаў трапіла бібліятэка Сафійскага сабора. Каб вынішчыць памяць палачанаў пра сваю дзяржаву і колішнія вольнасці, царскія служкі палілі ці вывозілі старажытныя граматы. Магчыма, якраз тады Беларусь страціла бясцэнны Полацкі летапіс.

Пад маскоўскія гарнізоны ў Прыдзвінні ўзводзіліся новыя замкі. Аўтар «Запісак пра Маскоўскую вайну» Рэйнгольд Гейдэнштэйн пісаў: «На пскоўскай дарозе на паўвыспе паміж рэкамі Дрысаю і Нішчаю, супроць літоўскіх фартэцаў Дзісны і Дрысы маскавіты пабудавалі фартэцы: Сокал і Нешчарду на возеры з тым жа назовам, Сітна па дарозе на Вялікія Лукі; потым Каз'ян на рацэ Обалі і Усвят на суднаходнай рацэ таго сама назову, што зліваецца з Дзвіною каля Суража. Каз'ян супроцьстаяў Уле, Усвят — Віцебску і Суражу. На левым баку Дзвіны цар пабудаваў у вусці аднайменнай ракі Туроўлю, а на месцы вельмі ўмацаваным і абваколеным з усіх бакоў вадою (на возеры Суша за трыццаць вёрстаў ад Туроўлі) узведзена фартэца Суша, што пагражае Літве. Апрача таго, ён дадаў да пералічаных замкаў Красны, які таксама ляжыць на высокім месцы ў кірунку да Літвы».

Паслам вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, якія прыехалі ў Маскву падпісаць замірэнне, Іван IV паставіў загадзя невыканальную ўмову — вярнуць Інфлянты (Лівонію) і Полацкую зямлю. Між тым у часе перамоваў царскія палкі ўжо збіраліся ў Вязьме, Дарагабужы і Смаленску ў новы паход. Вайна, якая з Інфлянцкай ператварылася ў Полацкую, працягвалася.

Полацкаму намесніку Пятру Шуйскаму было наказана выступіць да Воршы і, сустрэўшыся паблізу яе з ваяводамі Сярэбраным-Абаленскімі, «выпальваючы Літву», ісці на Менск і Навагародак. Шуйскі з 25-тысячным войскам рухаўся, быццам па сваёй зямлі, — дазоры наперад не пасылаў, панцыры і зброю вёз на санях — і быў за гэта жорстка пакараны.

Даведаўшыся пра рух непрыяцеля, наш вялікі гетман Мікалай Радзівіл, што стаяў у Лукомлі, узяў



Мікалай Радзівіл Руды камандаваў войскамі Вялікага Княства Літоўскага падчас Ульскай бітвы.

з сабою адборных коннікаў і на беразе Улы каля вёскі Іванск (цяпер у Чашніцкім раёне) раптоўна ўдарыў па ворагу. Стральцы не паспелі ні надзець браню, ні стаць у палкі. Сеча доўжылася пяць гадзін, а надвечар маскоўцы, кінуўшы абоз, пабеглі. Нашы ваяры да глыбокае ночы ў месяцавым святле пераследвалі і дабівалі захопнікаў. Радзівілу чынна дапамагалі тамтэйшыя жыхары. Просты селянін з Іванска забіў сякераю самога ваяводу Пятра Шуйскага.

Ад куляў, шабляў і дзідаў на берагах Улы палегла дзевяць тысяч маскавітаў і столькі ж патанула. Як сведчыць польскі храніст Мацей Стрыйкоўскі, мноства чалавечых костак на месцы бітвы можна было ўбачыць яшчэ праз дваццаць гадоў пасля яе. Пераможцы захапілі дванаццаць ваяводаў і абоз з трох тысяч вазоў. Цела князя Шуйскага знайшлі ў рацэ. Радзівіл урачыста ўехаў на ягоным кані ў Вільню, а царскага ваяводу з пашанаю пахавалі там у царкве Багародзіцы.

Бліскучая перамога на Уле сарвала планы царскіх ваяводаў зрабіць паход углыб Вялікага Княства Літоўскага і змусіла іх павярнуць свае палкі ад Воршы назад.

Раз'ятраны разгромам на Уле і ўцёкамі свайго былога паплечніка князя Андрэя Курбскага, Іван Жахлівы шукаў палёгкі ў расправе над полацкім палонам. Аднаго разу проста ад бяседнага стала цар і застоліца кінуліся ў крамлёўскія сутарэнні, дзе сядзелі вязні. Здаволіліся адно тады, як зарэзалі болей за сотню бяззбройных зняссіленых людзей, а потым вярнуліся да хмяльных сталоў — дапіваць. Вядома, што ў той разні полацкі шляхціч Быкоўскі выхапіў у цара з рук дзіду, але сілаў на тое, каб адправіць яго ў магілу, ужо не хапіла.

Увосень таго ж 1564 года да Полацка падступіла нашае войска на чале з Радзівілам і Курбскім. На прапанову здавацца новы царскі ваявода Пётр Шчанятаў, ведаючы, што да яго ідуць палкі з Вялікіх Лукаў, адказаў гарматнымі стрэламі. Баючыся акружэння, гетман зняў аблогу і пераправіўся на левабярэжжа. Пасля гэтага на працягу пятнаццаці гадоў значных баявых дзеянняў у полацкім наваколлі не было. Час ад часу адбываліся адно памежныя сутычкі. Атрад Бірулі, напрыклад, разбіў пад пабудаваным маскоўцамі замкам Сітна чатыры сотні стральцоў, захапіў шмат пораху, куляў і 120 цяжкіх стрэльбаў-гакаўніц, а саму фартэцу спаліў.

Зацішша доўжылася, пакуль у снежні 1576 года вялікім князем літоўскім не быў абраны сяміградскі ваявода вугорац Іштван Баторы, або, як яго называлі беларусы, Сцяпан Батура — выдатны палітык і таленавіты ваявода. Стаўшы на чале дзяржавы, ён прысягнуў заўсёды асабіста ўзначальваць войска і вярнуць усе завяваныя маскоўскімі царамі землі.

**У. А.**

ДАГЕРОТИП

# Гитлер живет в Беларуси

## Британская виртуальная история на фоне белорусской реальности

**Семен БУКЧИН**

Книга эссеистики девяти британских авторов «Виртуальная история» (*Virtual History*), выпущенная британским же издательством *Picador*, заставляет работать воображение. Эстеты от истории резвятся, подстегивают собственную фантазию, всячески завлекая читателя и приглашая его разделить с ними эти историко-гурманские экскурсы на тему «что было бы, если бы...»

Если бы, разумеется, не случилось того, что уже случилось и что нам отлично известно. Писаная и отпечатанная в сотнях академических трудов история, в конце концов, может прискучить. Ну убил Иван Грозный собственного сына. А вот если бы не убил? Что было бы тогда? И если бы Ленин-гимназист, катаясь на коньках по льду Свияги, угодил бы в полынью? Как тогда обстояло бы дело с «Апрельскими тезисами»?

Англичан, конечно же, интересуют собственные дела. В сборнике блестящих по форме и стилистике эссе, вышедшем под редакцией известного историка Нэйла Фергюсона, девять смелых и дерзких авторов, щедро используя всевозможные исторические источники вперемежку с собственными домыслами, пытаются по-новому развернуть хрестоматийные страницы английской истории.

Ну, например, что было бы, если бы Карл I не довел дело до гражданской войны и революции Кромвеля?

Впрочем, современные британские «виртуалы» залезают и в чужую историю. И небезуспешно. Вот, к примеру, не слабый вопросик: как развивались бы события в мире, если бы Джон Кеннеди не был убит? А какую шикарную картину московского путча 1991 года, в котором победу одерживают «твердоголовые», противники реформ, разворачивает Марк Олмонд!

И все-таки захваченность собственной историей преобладает. Что вполне естественно. Два самых блестящих эссе посвящены Гитлеру. Эндрю Робертс живописует картину жизни соотечественников в условиях немецкой оккупации. Жизнь, как водится, продолжается. Англичане устраиваются кто как может. Но Гитлер должен насладиться их позором. Сначала он живет в Лондоне инкогнито. Такой вот отрицательный Гарун аль Рашид, бродящий неузнанным по улицам британской столицы. А потом появляется в театре. И король Лир выходит на сцену, завернувшись в плащ со свастикой...

Майкл Барлей берет шире. Его эссе называется «Европа в оковах гитлеризма». Но и здесь в центре несчастная Англия. Вожди Третьего Рейха только и думают о том, как унизить гордых британцев. Дело доходит до того, что Гитлер приказывает перевезти колонну адмирала Нельсона из Лондона в Берлин.

Но это все детали для слабо посвященных в британскую историю, состоящую из того же Нельсона, Черчилля, ну и еще Марии Стюарт... Кайф, который получают современные английские читатели от этой книжки, заключается в подробном расписывании, кто и как себя вел в годы немецкой оккупации: крупнейшие политические деятели, банкиры, журналисты и т.д. Речь, разумеется, идет о совершенно конкретных фигурах. Забавно читать, как иные записные патриоты вместе с оккупантами участвуют в разграблении королевских дворцов, музеев, галерей...

Штука в том, что это не клеветнические фантазии. Авторы — опытные историки. И в каждом случае они подводят соответствующую «психологическую базу». Таким образом, виртуальные поступки реальных личностей вполне обоснованы и фактически и психологически. Сделано это настолько мастерски, что невольно начинаешь верить, что так оно и было. Хотя и пытаешься одновременно сбросить виртуальную паутину исторических хитросплетений и восклицаешь как во сне: «Да нет же, этого не может быть!»

Книга «Виртуальная история» еще раз убеждает в том, что для британцев все, что делается в их стране, — это самое главное в мире. Мировая история по-прежнему вершится в Великобритании, хотя и утратившей имперский размах.

Но есть и еще один урок. Невольно опрокидываешь ту же виртуальную историю на Беларусь. И сразу понимаешь нелепость такого опыта. Немцы бомбили Лондон и полностью разрушили Ковентри. Но их солдаты не пришли на острова. Какая виртуальность сравнится с той реальностью, что составляла жизнь в Беларуси в те же годы?

Но почему мне кажется в последнее время, что Гитлер жил у нас в военную пору? И даже нечто завещал нам. Во всяком случае, помимо минского музея истории Великой Отечественной войны и сотлевших по лесам партизанских землянок, у нас осталось еще нечто, долгие годы нами не замечаемое... А оно, оказывается, жило рядом, наследие Адольфа Алоизыча, такого, оказывается, своего в доску мужика... И когда потребовалось, оно заговорило...

Нет, еще не скоро возьмутся белорусские историки за виртуальную историю Беларуси. Поскольку реальность пока забивает любую виртуальность. Это там, на Западе, от скуки, от сытости, от монотонности и многовековой государственной устойчивости потянуло на эксцентрику, на виртуальное.

Гитлер продолжает жить в Беларуси.

ОБРАЗОВАНИЕ

# Первые ученики

## Проведенные по всему миру тесты показали, что азиатские дети опережают своих американских и европейских сверстников по математике и естественным наукам

Вы не знаете, как умножить дробь на дробь? Вы позабыли, что такое фотосинтез? Обратитесь к маленькому сингапурцу — он подскажет. Международное исследование успеваемости по математике и естественным дисциплинам показало, что уровень знаний у сингапурских восьмиклассников намного выше, чем у их ровесников из других стран. Азиатские страны показали самые высокие результаты, и оттуда доносятся ликующие крики, тогда как из Америки и Западной Европы, занявших места где-то посередине таблицы, слышны лишь вздохи зависти.

В самом крупном из экспериментов подобного рода, организованном и профинансированном сообществом исследовательских центров, приняли участие 500.000 учащихся из 41 страны. Даже вечные соперники Япония и Китай, обычно избегающие вместе участвовать в мероприятиях такого рода, на этот раз согласились померяться силами. И в отличие от подобных опросов, проводившихся как бы в вакууме, нынешний эксперимент учитывал «контекст» — то есть стиль преподавания, методические приемы и учебные планы.

Итак, что же общего имеется у стран-победительниц? Прежде всего жесткие общенациональные стандарты, чего не оказалось в Америке, где восьмиклассники, оказывается, проходят учебную программу, которой ребята из Азии овладевают на год раньше. Кроме того, во всех странах, чьи представители вышли на первые места, существует система поощрений за успеваемость и всячески приветствуется участие родителей в учебном процессе.

Есть и неожиданности. В странах-чемпионах в классах по 40 учеников и домашние задания традиционно сведены к минимуму, тогда как в Америке, чьи успехи куда скромнее, все наоборот. Сингапур, который на подобных испытаниях, проводившихся в 80-е годы, держался «середнячком», объясняет свой нынешний триумф тем, что постоянно «рассортировывает» учеников по способностям. Забавно, что некоторые американские специалисты склонны считать, что именно этот метод стал причиной посредственных результатов в их стране. Выяснилось также, что напрасно на телевидение возлагают ответственность за «кашу» в детских головах: японские школьники, занявшие третье место, смотрят телевизор не меньше американских — те же 2,7 часа в день.



Будущие капитаны индустрии и светила науки пока еще учатся в одной из сингапурских школ.

(Продолжение на стр. 8)

